# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 39 (552) ГОД XI БЕЛАСТОК 25 ВЕРАСНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

У НУМАРЫ





За плугам. Фота Ул. Паўлючук.

# КРЫЖОЎНІКІ Ў ДРАГІЧЫНЕ

Мгр Мікалай Гайдук

«И приде ко граду Дорогычину и восхоте внити во градъ і вестьно бысть ему, яко: «Не внидеши во градъ». Оному рекшу, яко: «Се былъ градъ наш и отець нашихъ». «Вы же не изволисте внити вь онь». Отъиде. И отъиде мысля си: иже Богъ послеже отмьстве створи держателю града того и вдасть и въ руце Данилу».

Іпаціеўскі летапіс, гады 1240—1243.

Землі, паложаныя паміж ракой Бобрай (Бебжай) і сярэднім цячэннем ракі Буга, вельмі рана трапілі ў кола зацікаўлення рыцараў крыжа і мяча. Аб чыста рэлігійнай місіі, г. зн. хрышчэнні жыхараў гэтых зямель, не магло быць і мовы. Тагачаснае ўсходнеславянскае насельніцтва (у асноўным крывіцкага і дрыгавіцкага паходжання) гэтай тэрыторыі знаходзілася ўжо амаль трыста год у складзе кіеўскай праваслаўнай мітраполіі. Таксама і невялікая паўночна-заходняя частка, населеная выхадцамі з Мазоўша, была інтэгральнай часціцай плоцкага каталічаскага епіскапства. Крыжаносцы маглі цікавіцца Падляшшам толькі і выключна з мэтай здзяйснення сваіх таемных ваенных намераў. Яно ж знаходзілася ў непасрэдным суседстве з Ятвягіяй, Літвой і Прусіяй, на якія накіравалі свой першы ўдар рыцары-заваёўнікі.

Дзеля выразнейшага ўяўлення ходу падзей прыгадаем агульнавядомыя гістарычныя даты. У 1225/26 гг. князь мазавецкі Конрад запрашае к сабе ў княства нямецкі закон для барацьбы супраць набегаў прусаў на мазавецкія землі. У 1230 г. значная колькасць законных вояў на чале з містрам Германам фон Зальц прыбывае ў Мазоўша і па дазволу кн. Конрада пасяляецца ў Холмскай зямлі (па ніжняму цячэнню ракі Віслы). У 1233 годзе яны пачынаюць павольнае, але сістэматычнае і надзвычай кровапралітнае заваяванне Прусіі. У выніку 50-гадовых заваёў крыжаносцаў Прусія была цалкам запалонена крыжаносцамі, прусы як народ фізічна знішчаны, на іх тэрыторыі разбудавалася моцная мілітарысцкая законніцкая дзяржава крыжаносцаў.

Магчыма, крыжоўнікі пачаткова і не выношвалі плана заваявання Падляшша, але намеры іх падпарадкаваць яго сваім уплывам не падлягаюць ніякім сумненням.

Першай спробай ажыццявіць гэтын экспансіўныя планы было пасяленне невялікага атрада крыжаносцаў на чале з містрам Брунам у Драгічыне над Бугам у 1237 годзе. Наступіла гэта ў выніку часовага аслаблення Уладзімірска-Галіцкага княства, у склад якога ўваходзілі Бельская, Драгічынская і Мельніцкая землі.

Пасля смерці яго князя Рамана Мсціслававіча ў 1205 годзе, унутры княства пачынаецца міжусобная барацьба за князеўскі пасад. Яе выкарыстаў мазавецкі князь Конрад, далучаючы ў канцы першага дзесяцігоддзя XIII стагоддзя Драгічын і зямлю драгічынскую да Мазоўша. Мазавецкі ўладар дасканала ўяўляў сабе, што Драгічын з'яўляецца для яго здабыткам надзвычай нетрывалым: князі ўладзімірска-галіцкія пры першай карыснай для іх нагодзе не прамінуць узброена патрабаваць яго звароту ў склад радзімага княства. Такая хвіліна няўмольна набліжаецца ў асобах маладых князёў Данілы Рамановіча і Васілька Рамановіча.

Мудрыя і энергічныя сыны князя Рамана, уладкаваўшы ўнутрыдзяржаўныя справы, пачалі актыўна клапаціцца аб цэласці княства ў такіх межах, якім яно было пры іх бацьку. У такой сітуацыі справа Драгічына мусіла б стаць прычынай вайны паміж Мазоўшам і Уладзімірска-Галіцкай Руссю. Такая ўзброеная сутычка не захапляла князя Конрада, які наогул быў станоўчым саюзнікам князёў рускіх, неаднаразова карыстаўся іх ваеннай дапамогай у барацьбе супроць ятвягаў і прусаў, а таксама ў сваіх імкненнях апанаваць кракаўскім княствам. І князь Конрад, каб захаваць пры сабе гэты багаты і людны рамесніцкі горад і адначасова цэнтральны пункт гандлёвага абмену паміж Усходам і Захадам, якім быў у той час Драгічын, пасяляе ў ім крыжацкі атрад Бруна. Такім чынам, абавязаўшы новых пасяленцаў падпарадкавацца яго ўладзе, князь мазавецкі забяспечваў свой уплыў на Драгічын, атрымоўваў ваенную дапамогу крыжоўнікаў у ахове ўсходніх раёнаў Мазоўша ад набегаў ятвягаў і надта ўскладняў справу далучэння Драгічынскай зямлі князямі Данілам і Васількам да сваіх уладанняў.

Крыжаносцы вельмі сквапна скарысталі з Конрадавай прапановы. Драгічын быў адным з пунктаў, які замыкаў кола акружэння крыжаносцамі Прусіі, Літвы і Ятвяг, быў вельмі карысным стратэгічным пунктам націску на гэтыя народы з паўднёвага ўсходу. У 1237 годзе наступіла аб'яднанне ўсіх крыжацкіх законаў, якія дзейнічалі з мячом і крыжам на ўсходнім пабярэжжы Балтыйскага мора. Князі Даніла і Васілька, стаўшы перад пагрозай праз зварот

(Працяг на стар. 3)

НА РОЗУМ НЕДАВЕРКА

*Найцяжэйшая мова — гэта мова пра культуру. Што такое культура? Думаем аб гэтым і думаць будзем.*

*Звычайная на вёсцы мова пра культуру зводзіцца да святліцы: або яна ёсць, тады і культура ёсць, або няма святліцы і культуры няма. Калі святліцы няма, вінаватыя якіясьці там неакрэсленыя ўлады, бо святліцы не будуюць. Але вось людзі рашаюць: хочам быць культурнымі і збудуем сабе святліцу грамадскім чынам. Тады са старых бэлек закладаюць зруб, а потым пачынаецца хаджэнне за грашыма ў павет. Калі ўжо святліца закончана і адбудзецца яе ўрачыстае, аж да непрытомнасці, адкрыццё, тады зноў аказваецца, што далей няма чаго рабіць, бо ж патрэбен і кіраўнік, і інструктар, і артысты.*

## ДЗЕ МЕСЦА ДЛЯ КУЛЬТУРЫ?

*Новасцю на вёсцы, як мне заўсёды здавалася і далей здаецца, з'яўляюцца клубы «Руху». Дзейнасць іх абапіраецца на эканамічным рахунку, а не на «добрай і прымушанай волі» ананімнага адрасата. Клубы «Руху» адразу на Беласточчыне папалі аднак пад атаку і найбольш ад прыхільнікаў святліц. А таму, што нібы культура не гандаль і продаж кніжак, газет, часопісаў, мыла, туалетнай паперы не мае нічога супольнага з культурай. Што такое культура? Дзе яе шукаць і як яе тварыць? У Беластоцкім ваяводстве так павялося, што ўсе баяцца аб гэтым думаць. А вядома, калі мала думаецца, то найлепш ісці дарогай працёртай.*

*А працёртая дарога гэта аматарскі рух.*

*Асобны раздзел — бібліятэкі! Але бібліятэкі нашы скромныя, цесныя, няма ў іх шырокага асартыменту часопісаў. Бібліятэка на вёсцы знаходзіцца прытым на правах няпісанай аўтаноміі. Самі нашы бібліятэкары не ўмеюць гэтай сваёй аўтаноміі выкарыстаць, каб зашумець. Другая справа з чым шумець? Па сутнасці бібліятэкі робяць найбольшую культуру на вёсцы, хоць у маіх шырокіх размовах з вясковымі ўладамі аб культуры яны не хваляцца бібліятэкамі. Гэта таксама таму, што тэрэновыя ўлады і перад усім рады нарадовыя не дбаюць пра бібліятэкі. Валяцца бедныя грошы (увесь грамадскі фонд ГРН-аў) на «чыны»! Калі нават аб чынах гаварыць без чужамоўя, то і так помніць трэба было б аб прапорцыях і куску хлеба для духа. А найлепшы ён кусок — кніжка.*

*Вясковы чалавек няглездзячы на горбу прыгожых слоў аб культурных дасягненнях Беласточчыны па праўдзе пазбаўлены ўсё ж яшчэ тых дасягненняў. Ён у такім выпадку інтуіцыйна сягае па кніжку. Яна не вымагае ад яго дэкларацый і справаздач. Штораз больш на вёсцы чытае і штораз больш людзей ідзе ў бібліятэку. Гаворачы пра культуру ў перадкангрэсавы час хочацца, каб кніжка, газета і часопіс занялі першае, належнае сабе месца ва ўсялякіх мовах аб культуры. Таксама тады, калі гаворым, што найперш купім: напрыклад — більярд ці кніжныя навінкі?*

*Для мяне асабіста выбар адзін: за ўсялякую цану трэба купіць кніжку.*

Вера Леўчук

 

## КЛУБ ліцэіста

# ХТО ВІНАВАТЫ?

Якуб цяпер думаў аб гэтай справе, якая закончылася так трагічна. Чым больш раздумваў ён, тым лепш усведамляў сабе, што настаўнікі памыліліся, што ўсяму вінаваты яны.

Пачалося гэта якраз год таму назад. Якуб хадзіў у X клас агульнаадукацыйнага ліцэя. У школе быў ён «сярэдняком». Двоек не меў, але і пяцёрак у сваім хатнім дзённічку не бачыў. Хлапец з яго быў прыгожы, рослы. Адным словам дзяўчатам падабаўся. Бяда вось у тым, што Якуб быў надта нясмелым у адносінах да дзяўчат. Бывала, калі дзяўчына звернецца да яго, Якуб адразу бянтэжыцца, чырванее, як бурак. Свае дзяўчыны даўно махнулі на яго рукой. — Што ж з яго прыгажосці, — гаварылі, — калі з сябе слова не патрапіць выдабыць. Па гэтай прычыне Якуб вельмі цярпеў. Усе яго калегі маглі пахваліцца сэрцавымі справамі. Асабліва ў панядзелак, або пасля якога-небудзь свята. На пальцах лічылі «падарваных» дзяўчат. Адзін Якуб не браў удзелу ў гэтых размовах. Ён зашываўся так, каб ніхто не ўбачыў яго, і сам перажываў сваю «адсталасць». Часам на вуліцы ён стараўся зачапіць дзяўчыну, але заўсёды выходзіла гэта нейк нязграбна.

Ідучы ў школу Якуб штодзень бачыў невялікую, чарнявую дзяўчыну. Ён ведаў ужо, што яна вучыцца ў Медычным ліцэі. Кожны раз яны спатыкаліся на тым самым месцы і кожны раз пазіралі на сябе. Дзяўчына мела чорныя валасы, такія ж вочы. Маленькі, задзёрысты носік. Губы маленькія, чырвоныя, нібы даспелая маліна. Шчокі белыя, кругленькія. Усё гэта добра гарманізавала з яе дробненькай постаццю. Дзяўчына вельмі жвавая. Безупынна шчабятала, смяялася. Якуб, лежачы ўжо ў ложку, думаў аб ёй. Укладаў планы, як зачапіць яе. Ранкам быў упэўнены, што сёння. Шпаркім крокам падыходзіў да скрыжавання вуліц. З процілеглага боку ішла яна і... позірк. Усё. Так было на працягу двух месяцаў. Надыйшоў карнавал. Школы ладзілі забавы. Якуб не хадзіў аднак нікуды, хаця танцор з яго, якіх мала ў школе. Старэйшая сястра навучыла яго найнавейшых танцаў. Умеў твіста, джайфа, чарлестона. Часта перад люстэркам выконваў усе гэтыя складаныя выгібасы, але толькі тады, калі ніхто не бачыў.

17 студзеня (Якуб вельмі добра памятае гэтую дату) «Пялюшкі», бо так называлі хлопцы Медычны ліцэй, запрасілі ўсіх хлопцаў з «агульняка» на баль. Якуб не вытрымаў. Прыняў запрашэнне. Там жа будзе напэўна яна. Хаця даўжэй паглядзіць на яе, — думаў ён. Калі Якуб з'явіўся на баль, быў невялікі перапынак, таму новапрыбылага надта хутка ўсе заўважылі. Якуб у першай хвіліне хацеў уцякаць, аднак устрымаўся. Збянтэжаны, няпэўна падышоў да сцяны і падпёр яе. Найбольш бяды было з рукамі. Якуб ведаў, што ў кішэні трымаць іх брыдка, але ў такім выпадку што з імі зрабіць. Ён сапраўды не ведаў. Стараўся залажыць іх назад, палажыць па швах, трымацца за клямку, але кожная поза не падабалася яму. Нясмела пачаў разглядаць залу. Бачыў невялікія грамадкі хлопцаў і дзяўчат, якія стаялі паасобку па трох, чатырох. Бачыў сваіх калегаў, якія здзіўлена і іранічна глядзелі на яго, недаверлівы, што ён сюды прыйшоў. Раптам Якуб задрыжаў. У правым кутку залы, каля аркестра, стаяла яна. Дзяўчына ўжо даўно ўбачыла яго і цяпер увесь час пазірала ў бок дзвярэй, дзе Якуб стаяў. Ён зусім разгубіўся. Думаў, што цяпер павінен падыйсці да яе, але адначасова ведаў, што гэтага не зробіць. Перапынак скончыўся. Аркестр граў джайфа. Паркет запоўніўся парамі. Дзяўчына ўсё глядзела на яго, але вось падыйшоў да яе Валодзя, аднакласнік Якуба, і запрасіў танцаваць. Гралі вельмі доўга. Якуб ледзь дачакаўся канца. Валодзя стаяў ужо каля дзяўчыны і трымаў яе за руку. Як жа цяпер Якуб ненавідзеў яго. Раптам той, хто бубніў, устаў і заявіў:

— Цяпер «белае танга». Дзяўчаты просяць хлопцаў. Валодзя напружана глядзеў на дзяўчыну. Яна штосьці сказала яму і накіравалася да дзвярэй. Якуб ведаў ужо напэўна, што ідзе да яго. Не памыляўся. Пачалі танцаваць.

Якуб лёгенька, як бы баючыся, каб нічога не пабіць, дзяўчына больш рашуча. Потым былі новыя і новыя танцы. Якуб баяўся адазвацца да дзяўчыны. Яму здавалася, што ўсё гэта — прыемны сон, які ўмомант згіне. Але не згінуў. Час праляцеў вельмі хутка. Баль кончыўся. Якуб не памятаў нават, як апынуўся з дзяўчынай на двары. Размова ў іх не клеілася. Якуб даведаўся аднак, што дзяўчыну завуць Верай, што Вера з'яўляецца адной з найлепшых вучаніц у класе, што яна гаспадыня класа і наогул актывістка. Каля інтэрната, дзе Вера жыла, яны развіталіся.

Якубу кружылася ў галаве, чуў нейкую пустату. Здавалася яму, што ён не ідзе, а плыве ў паветры. Мінула ад гэтага часу два месяцы. Снег паволі сходзіў. На полі відаць было чорныя платы зямлі. Ноччу было яшчэ вельмі холадна, але днём можна было трошкі пагрэцца на сонцы. У паветры чулася вясну, а ў душы Якуба цягу да Веры. У школу хадзіў ён цяпер іншай дарогай, таму што саромӗўся сустрэць Веру. Думаць пра яе аднак не перастаў. Бачыў яе ў сне і калі прымыкаў вочы. Ва ўсіх яго сшытках віднеліся надпісы: Вера, Верка, Верачка, Вэрка і г.д.

Так далей Якуб жыць не мог. Ён мусіў убачыць Веру. Падыйсці да яе на вуліцы не адважыўся. Пастанавіў напісаць пісьмо і запрапанаваць кіно. Аказія надарылася вельмі зручная. Ішоў амерыканскі «вэстэрн», а вядома, што ў такіх выпадках білетаў не хапае. Якуб цешыўся. Касіршай у кіно была яго цётка. Таму мог дастаць білеты без клопату. У суботу Якуб нецярпліва хадзіў каля кіно. Прыйдзе, ці не? Прыйдзе, ці не? Гэтая думка ўсё калаталася па галаве. Яшчэ за кіёскам убачыў шэрую спадніčку. Яна напэўна належыць да Веры, Веркі, Верачкі. Пусціўся насустрач. Яны шчыра прывіталіся. І вось дзіва, як калісьці размова ў іх не ішла, дык цяпер наадварот. Гаварылі вельмі многа.

Ад гэтага дня спатыкаліся яны часта. Прыйшоў май. Якуб з Верай адчувалі сябе найшчаслівейшымі людзьмі на свеце. Ночы цяпер былі прыгожыя і цёплыя, таму Якуб часта прыходзіў пад вокны інтэрната. Умоўны знак, і вось адчыняецца акно, у якім паказваецца дробненькі тварык Веры. Праз хвіліну яе маленькая постаць з'яўляецца ўжо побач Якуба. Трымаючыся за рукі ідуць туды, дзе канчаецца мястэчка. Тут робяць яны смешныя рэчы, але гэтыя рэчы смешныя толькі таму, хто ніколі не кахаў. Яны ганяюцца па лугах, бегаюць па межах. Асабліва любяць дождж. Хляпаюцца тады ў лужах, стаяць нерухома, высока падняўшы галовы. Потым злучае іх пацалунак. Якуб у такіх момантах не чуе, дзе канчаецца ён сам, а дзе пачынаецца Вера. Яму здаецца, што яны зліліся ў адно. Гэтыя сустрэчы паўтараліся кожную ноч. І яны сталіся пасрэднай прычынай усяго таго, што здарылася пазней. Кіраўнік інтэрната хутка заўважыў, што Вера за апошні час змянілася. Сталася задумлівай, без прычыны смяялася. Ён зацікавіўся гэтым і хутка сцвердзіў, што Вера ноччу дзесьці выходзіць. Прайшло некалькі дзён і ўсім было вядома, што Вера робіць у той час, калі ўсе спяць. Пастановай педагагічнага савета Веру выключылі са школы. Якуб атрымаў з паводзін тройку.

Вось чаму Якуб шукае цяпер адказу на пытанне, хто тут вінаваты? Ён сам? Вера, настаўнікі, ці можа ўсе па-троху? А вы як думаеце?

**УЛАДЗІМІР ГРЫГАРУК**

*Легенды нашай вёскі*

## БАЛОТА ЯНА

Праехаўшы два кіламетры дарогі з Ляшукоў у напрамку вёскі Лука сустракаем балота Яна. Яшчэ за цара, кажуць старэйшыя людзі, позна ўночы на гэтым месцы страшыла і то п'яніцаў. Калі п'яны чалавек ехаў гэтай дарогай, каля Яна штосьці каня скіроўвала з дарогі і па балоце некалькі гадзін кругом і кругом вадзіла, а потым пускала, і зноў чалавек трапляў на дарогу ды ехаў, куды яму трэба. Сяляне гаварылі, што там пасяліўся чорт і так людзей зводзіць. Праз балота працякаў невялікі ручай. Людзі задумалі на гэтым ручаі паставіць Святога Яна. Так і зрабілі. Сярод ручая паставілі невялікую каплічку, а ў ёй на лаўцы выструганага св. Яна. І хто тады ехаў ці ішоў, заходзіў да каплічкі і клаў грошы. Сяляне думалі, што забірае для сябе іх Ян, бо грошы клалі, а іх не было, але гэтыя грошы забіралі некаторыя падарожнікі і пастухі, што пасвілі кароў. Ад таго часу і перастала там страшыць да сённяшняга дня.

Цяпер няма ўжо св. Яна, бо згніў, але балота каля таго месца і цяпер завуць балотам Яна. Там, дзе працякаў калісьці ручай, цяпер меліярацыйны роў. У 1964 г. сяляне засеялі балота травой.

**Толік Харкевіч**
Ляшукі

## Са школьнай нівы

### ШТО ДАЮЦЬ ШКОЛЬНЫЯ МАЙСТЭРНІ

Пры прафесіянальных школах існуюць школьныя майстэрні, якія з'яўляюцца практычнай базай школы.

Майстэрні ваяводства ў 1966 годзе выканалі прадукцыю роўную 41,8 мільёнам злотых. Акрамя розных рамонтаў, майстэрні прадукуюць такаркі, падноснікі для будаўніцтва, мэблю ў камплектах (між іншым школьную мэблю), тканіны, адзежу.

У новым школьным годзе будзе 3.780 месц працы ў школьных майстэрнях. Зразумела, для вучняў. (вл)

### ШКОЛЬНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

На інвестыцыі ў школьніцтве на новы навучальны год прызначаецца 118,2 мільёна злотых.

Зараз маем 46 школьных аб'ектаў у будове, з гэтага 16 былі гатовымі на 1 верасня 1966 года — 11 пачатковых школ, 1 агульнаадукацыйны ліцэй, 3 дзіцячыя сады, 1 інтэрнат (у Саколцы) на 200 месц. Далейшыя 7 аб'ектаў — 5 пачатковых школ і 2 школьныя майстэрні маюць быць гатовымі да канца года.

У гэтым годзе школьніцтва атрымала школы-помнікі Тысячагоддзя ў Візне, Гайнаўцы, Высокім Мазавецку, Сямяцічах і Лапах. Лічба помнікаў узрасла такім чынам да 37. У будове яшчэ адзін помнік на будучы год у Аўгустове. (вл)

(Працяг са стар. 1)

# Крыжоўнікі ў Драгічыне

Драгічынскай зямлі да сваіх уладанняў выклікаць небяспечную вайну з аб'яднанымі сіламі ўсіх крыжаносцаў ва Ўсходняй Еўропе, устрымоўваюцца на некаторы час ад гэтага кроку.

Крыжоўнікі тым часам канчаткова ўмацоўваюцца ў Драгічыне. Лік законніцкіх братоў павялічваецца, прабыванне іх у Драгічыне стабілізуецца.

У гэтым жа часе наступаюць карысныя для рускіх князёў перамены ў Мазоўшы. Князь Конрад імкнецца паўторна авалодаць кракаўскім тронам (першы раз ён здабывае кракаўскі пасад у 1231 годзе і пануе на ім усяго год), і гэта яму ўдаецца ў 1241 годзе. Цалкам заняты захадамі аб здабыцці панавання на кракаўскім княстве, ён амаль не звяртае ўвагі на Мазоўша. У мазавецкім княстве пануе яго сын Баляслаў. Князь Баляслаў жа ў сваёй замежнай палітыцы прымае курс надзвычай прыхільны рускім княствам. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца наступны факт.

Калі ў 1240—1241 гадах на Уладзімірска-Галіцкую Русь хлынула татарская навала, князь Даніла разам са сваім братам Васількам, сем'ямі і дружынамі быў вымушаны пакінуць сваю бацькаўшчыну. Ён, як сведчыць Іпацієўскі летапіс «Иде вь землю во Мазовьскую ко Болеславу, Кондратову сынови. И вдасть ему князь Болеслав градъ Вышегородъ. И бысть ту дондеже весть прія, яко сошли суть изь земле Руское бебожніи. И возвратися вь землю свою».

Крыжаносцы з Драгічына палічылі, што настаў час для іх задэманстраваць сваю абсалютную незалежнасць ад Мазоўша і Русі. Яны імкнуцца адарваць Драгічынскую зямлю ад Уладзімірска-Галіцкага княства і ў ёй утварыць сваю законніцкую дзяржаву. Адбылося гэта не без пагаднення з усім крыжацкім ордэнам і ў агульным яго націску на аслабеўшыя ў барацьбе з татарамі рускія землі. Як вядома ў тым часе крыжаносцы рыхтуюць штурм на Ноўгарад, які дзякуючы гераізму ноўгарадцаў канчаецца ў 1242 годзе разгромам крыжацкіх сіл на ільду Чудскага возера.

Падзеі ў Драгічыне разгортваліся траха ў іншым плане, чым пад сценамі далёкага Ноўгарада. Татарская навала ў 1240 годзе не абмінула Драгічына. Яго прыгарады і сама крэпасць былі спалены і зруйнаваны татарамі, насельніцтва часткова разбеглася, часткова было вынішчана або забрана ў няволю. Аднак крыжаносцы пазбеглі гэтага лёсу. Яны, відаць, напярэдадні нашэсця татар на горад падаліся ў адлеглыя гарадкі-крэпасці, што ў вялікай колькасці знаходзіліся на поўначы Драгічынскай і Бельскай зямель, і там бяспечна перачакалі татарскую навалу. Калі ж татары сышлі з Драгічынскай зямлі, крыжаносцы вярнуліся ў знішчаны горад і энергічна ўзяліся за адбудову яго крэпасці. Адначасова з адбудовай крэпасці яны апаноўваюць умацаваныя гарадкі, рассеяныя па ўсёй Драгічынскай зямлі. Будучы ў той трагічны для Падляшша час адзінай арганізаванай вайсковай сілай, яны ў сваіх захопніцкіх учынках не сустрэлі значнага супраціўлення.

Няпэўныя слухі аб падзеях у Драгічыне неўзабаве дайшлі да князёў Данілы і Васілька. У выніку пагаднення з князем Баляславам рускія князі са сваімі дружынамі накіроўваюцца ў Драгічын. Тут працыціруем Іпацієўскі летапіс, ён найбольш аўтарытэтна перадасць ход падзей ля драгічынскіх сцен.

«...и приде (г.зн. князь Даніла з князем Васількам і дружынамі — МГ) ко граду Дорогычину и восхоте внити во градъ. И вестьно бысть ему, яко: «Не внидеши во градъ». Одному рекшу (г.зн. князь Даніла сказаў яму — МГ), яко: Се былъ градъ нашъ и отець нашихъ». (На гэта крыжаносцы яму адказалі) — «Вы же не изволите внити вь онь».

Рускія князі, аб'ектыўна ацаніўшы свае магчымасці і сілу крыжоўнікаў, адкладаюць на пакульшто ліквідацыю крыжацкага драгічынскага гнязда. Гэта магло наступіць толькі праз некалькі год, калі Уладзімірска-Галіцкае княства папрӑвілася і ўзмацнела пасля татарскага нашэсця: паспяховае вырашэнне наспеўшай «драгічынскай праблемы» вымагала значнай вайсковай сілы.

Толькі недзе каля 1247 года Даніла і Васілька вырашаюць канчаткова вызваліць Драгічынскую зямлю ад крыжоўнікаў. Зімой яны збіраюць значныя вайсковыя сілы ў Берасцені (Брэсце) і пад відам паходу супраць ятвягаў знянацку нападаюць на Драгічын. Іпацієўскі летапіс лаканічна паведамляе аб гэтым факце наступнымі словамі:

«Данилови рекъшу: «Не лепо есть держати нашее отчины крижевникомъ, Тепличемъ, рекомымъ Соломоничемъ». И поидоста на не въ силе тяжьце. Прияста градъ месяца марта. Старейшину іхъ Бруна яша и вои изоимаша. И возвратися (во) Володимерь».

Драгічынская зямля была ачышчана ад крыжацкіх заваёўнікаў. Вярнулася яна ў склад Уладзімірска-Галіцкага княства. Драгічын на доўгія гады стаў улюбёным горадам князя Данілы. Ён аднавіў горад, разбудаваў і ўмацаваў яго. Як паведамляе той жа Іпацієўскі летапіс, у Драгічыне Даніла «...созда церковь прекрасну...», у якой, дарэчы будзе прыпомніць — у 1253 годзе вянчаецца на караля. Драгічынская зямля і разам з ёю Падляшша пазбавілася на сто год крыжацкай небяспекі.

Аднак крыжаносцы цалкам не адракліся сваіх намераў падпарадкаваць Падляшша сваёй уладзе. У другой палове XIV стагоддзя крывавы крыжацкі меч ізноў павіс над Падляшшам. Але аб гэтым будзе мова ўжо ў наступным артыкуле.

мгр **МІКАЛАЙ ГАЙДУК**
Бельск Падляшскі



 

З вандровак па краіне



## Стары і багаты Торунь

Торунь у гісторыі Польшчы заўсёды меў вялікае значэнне. Ведаем, што ў Торуні нарадзіўся вялікі астраном Мікалай Капернік, які «ўстрымаў Сонца, рушыў Зямлю».

У ліпені адзначалі мы 500-годдзе т.зв. II Торунскага Пакою (мірнага дагавору). II Торунскі мірны дагавор быў падпісаны пасля 13-гадовай вайны Польшчы з Крыжаносцамі ў 1466 годзе. У выніку гэтай вайны па сутнасці закончылася грабежніцкая гісторыя Крыжовага закону. II Торунскі дагавор вярнуў Польшчы заграбленыя Крыжаносцамі землі Памор'я.

У верасні адбываліся «Дні Торуня», у якіх прыпомніліся заслугі Торуня для навукі і культуры краіны.

Найбольшым забыткам Торуня з'яўляецца гатыцкая ратуша — самая старая будоўля такога роду ў Польшчы і адна з нямногіх у Еўропе. Самая старая частка ратушы, гэта вежа ад 1250 года. На пачатку яна стаяла адна. У XIII і XIV ст. вакол пачалі будаваць гандлёвыя і адміністрацыйныя будынкі. У залах ратушы змяшчаецца цяпер музей з цудоўнай галерэяй партрэтаў польскіх каралёў. На рынку перад ратушай ад 1853 года стаіць помнік Мікалая Каперніка. (авл)

Хваробы і лекі

### ЧАЛАВЕЧА, НЕ ПЕРАЙМАЙСЯ!

У Японіі існуе ад 1951 года вялікая масавая арганізацыя, падобная да нейкай рэлігійнай секты, якая ставіць сабе за мэту прывучыць сваіх членаў... ранютка ўставаць. Шырыць яна сярод японскага грамадства настрой добрага самаадчування і задавальнення жыццём. Штодзень а пятай гадзіне раніцы збіраюцца ўсе ў спецыяльна прызначаным на такія зборы памяшканні і выраблююць у сваім характары пагодлівую рэакцыю на вялікія і малыя справы чалавечага жыцця, вучаць сябе вынослівасці і звычайнай людской учціваці.

Да гэтай арганізацыі належыць каля мільёна чалавек, і мае яна каля 320 тысяч долараў даходу штогод са складчый яе членаў. (а-ся)

### СТАРЫЯ ХВАРОБЫ

Адзін з англійскіх вучоных-археолагаў правёў цікавыя доследы егіпецкіх муміяў ад чатырох тысяч год да нашай эры. На падставе рэнтгенаўскіх прасвятленняў дайшоў ён да вываду, што старажытныя егіпцяне хварэлі на такія самыя хваробы, як і цяперашнія людзі: хваробы нырак, вантробы, раматусавыя хваробы, склероз і т.п. Аказваецца, што так званы завал сэрца нельга лічыць хваробаю толькі нашага нервовага веку. На завал сэрца памёр адзін са слаўных егіпецкіх каралёў, якога багатую магілыю адкрыта ў 1920 г.

Англійскі вучоны адкрыў таксама найбольш старую на свеце пратэзу. Зроблена яна ў якасці штучнай рукі, з дрэва, ільну, жывіцы. Паходжанне пратэзы ўстаноўлена на першае тысячагоддзе да нашай эры (г. зн. тры тысячы год таму назад). (а-ся)

### ЛЯЧЭБНАЕ ДРЭВА

Аб лячэбных уласцівасцях кедра гавараць яшчэ старажытная медыцына, рачы загойваць кедравым маслам раны, абясшкоджваць змяіны яд.

Многія вучоныя шукалі тлумачэнняў здзіўляючым здольнасцям хвойных раслін. Лісце і хвоя дрэў выдзяляюць лятучыя рэчывы — фітанцыды, якія падаўляюць рост бактэрый і нават знішчаюць мікрафлору. У хвайных лясах фітанцыдаў больш, чым у лісцевых.

Фітанцыды па хімічнаму складу неаднародныя. Кедр, напрыклад, выдзяляе больш спрыяльныя для чалавека рэчывы, чым сасна. Больш таго, украінскі ўрач устанавіў, што насуперак існуючай думцы, паветра сасновага лесу аказвае на «сардэчнікаў» хутчэй раздражняючае, чым лячэбнае дзеянне.

Ці гэтая гіпотэза пацвердзіцца? Цяжка сказаць. Пакуль што вучоныя даследуюць уласцівасці не толькі кедра, але і раслін, якія яму спадарожнічаюць: бярозы, чаромхі, рабіны, ядлоўцу. Устаноўлена, што ў кедраўніках з мікробамі «ваюоць» і кедр, і яго спадарожнікі, многія кусты, травы. Таму тут мікраарганізмаў у тры разы менш, чым у паветры бярозавага лесу. (ака)



Паштоўка з БССР. Хор даярак з калгаса імя Пушкіна ў Бабруйскім раёне. Спяваюць яны беларускую народную песню «Бацька добры — мачаха злая».

## Мала, але цікава

### КОЛЬКІ НАС БОЛЬШАЕ ЗА ГОД?

Штогод насельніцтва Зямлі павялічваецца на 55 мільёнаў асоб. Гэта абазначае, што ў 2000 годзе будзе нас 6,5 мільярда (цяпер ёсць нас 2,2 мільярда).

### У ЕЎРОПЕ І ЗША

пражывае 18 працэнтаў насельніцтва свету, але раёны гэтыя даюць 57 працэнтаў сусветнай прадукцыі збожжа.

### 20 ПРАЦЭНТАЎ АБШАРУ

Зямлі — пустыня, 10 працэнтаў займаецца пад сельскую гаспадарку, а 20—30 працэнтаў можна загаспадараваць яшчэ.



### ПАМЯЦЬ МОЖНА ЗАШЧАПІЦЬ

Так кажуць лекары-псіхолагі з Каліфарнійскага ўніверсітэта. Правялі яны на пошуках вопыт, які пацвердзіў іх тэзу. Зрабілі так: адну групу пацукоў навучылі есці на сігнал. Потым частку іх памяці — рыбануклеінавага квасу зашчапілі ў мозг іншай групы пацукоў. Пасля 5 гадзін зашчэпленыя пацукі (не ўсе, але многія) таксама пачалі на сігнал ісці да ежы.

Калі ўсё гэта праўда, прыдатная і для людзей, то я не стану ўяўляць сабе будучыню. Чытач, зрабі гэта сам!

### СЯРЭДЗІНА ЕЎРОПЫ

ГДР ляжыць амаль у геаметрычным цэнтры Еўропы. З гэтай рацыі рэспубліка з'яўляецца краінай транзіту, праз якую на ўсе бакі ідуць дарогі. Гэта дае ГДР вялікі даход. Яна мае найгусцейшую пасля Бельгіі жалезнадарожную сетку ў Еўропе.

### ТОЛЬКІ МАТЫКА

Аж 70 працэнтаў усіх гаспадароў на свеце (350 мільёнаў асоб) ужывае ў гаспадарстве толькі матыкі.

### САМАЯ ВЯЛІКАЯ

і найважнейшая польская эканамічная вышэйшая школа — гэта Галоўная школа планавання і статыстыкі, папулярны СГПіС. Школа афіцыяльна існуе 60 год, але пачаткі яе сягаюць 140 год назад. Мае 90 прафесараў, 8,3 тысяч студэнтаў. У СГПіС-е выкладаў сусветнай славы вучоны Оскар Лянге.

### СУЧАСНАЯ КАЗКА

Бацька кароль Мвамбуцы IV пабег за каханкай-танцоркай у Жэневу, дзе ў 18-цілакаёвай кватэры жыў як у казцы, а тым часам цвярозы сын Шарль Ндзізеге не зяваў — схапіў уладу ў Барундзі сабе. На здымку: малады ўладар каралеўства Барундзі. (вл)

# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ „П-Т-ІКС"

Й ГОРНУНГ

### У ГАЛОЎНАЙ СТАЎЦЫ

Штабны стэнаграфіст ОКВ Гельмут Берг схіліў ніжэй галаву над спісанымі лістамі паперы, каб ад'ютант Гітлера генерал Шмундт, які сядзеў насупраць, не заўважыў, што яго морыць сон. На апошняй старонцы Берг занатаваў:

«Фюрэр не згаджаецца з думкай фельдмаршала Браухіча».

У памяшканні штаба, дзе адбывалася нарада, панавала цяжкая, панурая атмасфера. Афіцэры зусім замучыліся. З часу, калі нямецкія войскі ўварваліся на тэрыторыю Савецкага Саюза, увесь штаб працаваў без хвіліны адпачынку. Нават маршалы Кейтэль і Йодль, якія заўсёды ў прысутнасці фюрэра стараліся прадэманстраваць свой запал і руплівасць і лісліва хвалілі яго ідэі, на гэты раз слухалі вывады фюрэра з выразам стомленасці на тварах.

Нішто аднак не гаварыла за тое, што нарада скончыцца хутка, бо фюрэр быў раздражнены, абзываў генералаў і маршалаў невукамі і крэтынамі, а Браухіча абвінавачваў у няздольнасці кіраваць аперацыямі.

Гітлер сцвярджаў, што думка Браухіча пра крызіс у групе армій «Поўдзень» не адпавядае рэчаіснасці. Гэтая група не мела дастаткова сіл для выканання пастаўленых перад ёй задач, бо па меры прасоўвання ў кірунку Растова расло супраціўленне савецкіх войск. Камандуючы групай фельдмаршал Рундштэдт прапанаваў адысці з раёна Растова на лінію ракі Міус да падыходу рэзерваў. Гэты план падтрымаў Браухіч. Аднак Гітлер загадаў любой цаной утрымліваць занятыя пазіцыі і зняў Рундштэдта з пасады камандуючага. На яго месца быў прызначаны фельдмаршал фон Рэйхенау.

Затым Гітлер перайшоў да справы, звязаных з дзеяннямі групы «Цэнтр», і запатрабаваў ад Браухіча падрабязнага даклада аб новым аператыўным плане камандавання сухапутных войск.

Стэнографіст Берг прыўзняў галаву. Санлівасць яго як рукой зняло. Тое, аб чым зараз пачалі гаварыць, было вельмі цікава. Аловак, які Берг трымаў у руцэ, пачаў імкліва накідваць на паперу мудрагелістыя стэнаграфічныя знакі, а тым часам памяць фіксіравала найважнейшыя дэталі. — Захоп Масквы франтальнай атакай, калі нават кінуць усе сілы групы «Цэнтр», немагчыма. Пра гэта няма чаго і думаць, — гаварыў Браухіч, — любы штурм захлібнецца пад агнём моцнай абароны рускіх. Маскву ўзяць толькі флангавым манеўрам. Таму я прапаную пачаць аперацыю сіламі 4 палявой арміі фельдмаршала фон Клюге і 2 танкавай арміі генерала Гудэрыяна, якія нанясуць удар з раёна Тулы ў напрамку на Ульянаўск і абыдуць Маскву з поўдня, уклініўшыся ў глыбокія тылы рускіх. Адначасова 3 танкавая армія генерала Гота і 4 танкавая армія генерала Гепнера пачнуць наступленне з раёна Кліна ў напрамку на Іванава і, недаходзячы да гэтага горада, павернуць на поўдзень — на злучэнне з Гудэрыянам і Клюге. Астатнія сілы атакамі ў цэнтры будуць адцягваць увагу савецкага камандавання ад флангавых манеўраў.

Зусім нечакана фюрэр, на здзіўленне ўсіх прысутных, зацвердзіў план аперацыі, хоць яшчэ некалькі дзён назад ён настойваў на франтальным ударына.

Нарэшце, нарада скончылася. Гельмут Берг змог адкласці аловак, выпрастаць стомленыя пальцы і закурыць папяросу, бо ў прысутнасці фюрэра курыць сурова забаранялася. Гітлер не выносіў дыму.

Берг радаваўся, што яго дзяжурства прыпала якраз на дзень, калі абмяркоўваліся планы наступлення на Маскву. Звесткі гэтыя мелі велізарнае значэнне для савецкага камандавання; а Берг якраз сёння атрымаў дазвол выехаць у Растэнбург па асабістых справах — а ў сапраўднасці па справах, звязаных з яго сакрэтнай місіяй. У доме з зялёнымі аканіцамі на вуліцы Гіндэнбурга яго чакаў чалавек, якому Берг павінен быў перадаць інфармацыю аб планах ОКВ.

*(Працяг будзе)*

 

# ТРЫБУНА чытачоў



## Кляшчэлеўскі пісьманосец

Сустрэліся мы ў Кляшчэлях на Гайнаўшчыне.

Пятро Імшэнік ужо 22 гады разносіць лісты і газеты.

Кляшчэлі — тыповы вясковы пасёлак гарадскога тыпу. Для беззямельнага чалавека нялёгка знайсці тут працу. Людзі тады шукаюць шчасця далёка ад бацькоўскіх парогаў. Таму кляшчэлеўскі пісьманосец не можа наракаць на недахоп занятку. Яго торба заўсёды перапоўнена. Штодзень разносіць да сотні лістаў і тэлеграм.

Пытаю пра «Ніву».

— Няма чым хваліцца, — адкрыта, але неяк сарамліва кажа стары пісьманосец. Старому пісьманосцу прыходзіцца насіць найбольш, бо аж 47 штук «Газеты Беластоцкай». На другім месцы стаіць... «Аграхімія». Аж не паверыў я і яшчэ раз пытаю. Аднак пісьманосец упэўнена паўтарае, што разносіць сярод кляшчэлеўцаў аж 20 экземпляраў гэтага часопіса. Шмат тады чаго змянілася (на лепшае!) у псіхіцы нашых сялян, калі на пясчаных кляшчэлеўскіх палях, дзе нядаўна гаспадары ведалі толькі бульбу, жыта і авёс — цяпер чытаюць і вывучаюць спецыялістычны часопіс «Аграхімія». Прыемна пачуць. (вр)

## „Гарадскія госці" ў Ляшуках

28 жніўня ляшуцкі драмгурток выступаў у сваёй вёсцы з п'есай Алеся Барскага «Гарадскія госці». На пастаноўцы прысутнічаў і сам аўтар п'есы, якому ўручаны былі кветкі. Пасля пастаноўкі выступіў ляшуцкі жаночы хор.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## У Луцэ і Багнюках

Сельскагаспадарчы гурток у Луцэ (Гайнаўскі павет) існуе ад 1962 года і налічвае 50 членаў. Мае ён малацільны агрэгат, касілку і тры сеўнікі. У суседніх Багнюках (Беластоцкі павет) сельскагаспадарчы гурток таксама існуе чатыры гады, але там куды больш машын. Мае ён, між іншым, тры малацільныя агрэгаты, чатыры трактары, дзве снопавязалкі, дзве капачкі, зграбярку, тры сеўнікі і шмат іншых машын. Значыць, кіраўніцтва гуртка ў Багнюках лепш дбае пра механізацыю.

**М. Сухадола**
Слабодка

## Памог

Пажарнікі ў Крынках падрыхтаваліся правесці паказ баявой гатоўнасці перад высокім начальнікам, які заказаў свой прыезд. Адзін з патрыётаў мясцовай пажарнай каманды да таго пераняўся тым, каб добра ўдаўся паказ, што надумаўся падпаліць гумно. Відаць, здавалася яму, што пры сапраўдным пажары будуць усе лепш спраўляцца і атрымаюць пахвалу.

Як ні шкада, але начальнік у апошні момант адклікаў свой прыезд, а гумно было ўжо падпалена. Крынкаўскія пажарнікі сапраўды зухавата справіліся з пажарам і патушылі яго хутка. А патрыятычны падпальшчык павандраваў на тры гады ў беластоцкую турму.

**Кастрыца**

## Суд судзіць

Знерваваўся Павятовы суд у Саколцы вялікай эпідэміяй боек на забавах і цвёрда пастанавіў выкараніць паганых хуліганаў. Пастанавіў — і пасыпаліся суровыя кары без ласкі, без пардону.

Суд ваяваў з хуліганствам добрых пару год. Але ўжо ад 1964 года на Сакольшчыне выразна пацішэла. Калі часамі і паб'юцца хлопцы на забаве, назаўтра чым хутчэй перапрашаюць адзін другога. Відаць, страх перад караю спрыяе навучанню далікатнасці і трымання рук пры сабе. (ся)

З Бельшчыны



ДАЖЫНКІ. 28 жніўня адбыліся ў Галадах грамадскія дажынкі. Брала ў іх удзел звыш паўтары тысячы чалавек. Прысутных на дажынках прывітаў сакратар грамадскага камітэта ПАРП Шымон Раманюк. Дэлегацыя са спулдзельні прадукцыйнай у Крывой для гаспадара дажынак Аркадзя Іванчука ўручыла традыцыйны бохан хлеба і вянок з каласоў жыта і пшаніцы. У мастацкай частцы дажынак выступілі калектывы з Крывой, Пілік і Бранска. На здымку: старшыня спулдзельні прадукцыйнай у Крывой Рыгор Стральчук уручае бохан хлеба Аркадзю Іванчуку.



СКУП ІЛЬНУ. На пункт скупу ільну Бельскай рашарні ў Аўгустове штодзённа прыязджае многа фурманак. Скупляецца 200 тон ільну кожны дзень. На здымку: бракар Міхал Лаут класіфікуе лён для Васіля Дамброўскага з Храбалоў.



ДОБРЫ ЎРАДЖАЙ. Добра ўрадзілі ў гэтым годзе фрукты і агароднiна. Штодзень рынак у Бельску перапоўнены гэтымі вітамінавымі прадуктамі.

**П. Зінкевіч**

## Чытачы пытаюць — „НІВА" адказвае

**Пытанне:** Ад 1963 года я не жыву з жонкай і няма надзеі на тое, каб у нас дайшло да згоды. Ці можна ўжо цяпер выступіць у суд аб развод? Дзяцей мы не маем. У які суд трэба звярнуцца?

**Адказ:** Каб атрымаць развод, трэба даказаць у судзе, што паміж мужам і жонкай наступіла поўнае і трывалае разлажэнне сумеснага жыцця, што няма ніякай перспектывы на тое, каб жыццё паміж імі магло наладзіцца. У выпадку, калі ёсць дзеці, то суд і ў такіх абставінах можа не даць разводу, калі б у яго выніку магло нанесці страту дабро непаўналетніх дзяцей. Сам факт даўжэйшай разлукі можа толькі станавіць доказ, што разлажэнне супольнага жыцця наступіла. Існаванне даўжэйшай разлукі для атрымання разводу не абавязкова. Часамі поўнае разлажэнне супольнага жыцця існуе, хоць муж і жонка займаюць адно памяшканне. Вам трэба звярнуцца ў суд, у акрузе якога жыве жонка.

МАЛАЦЬБА. Спулдзельцы з Волькі Нурэцкай спяшаюць малаціць жыта, каб паспець перад сяўбой. На іх высакаякаснае насенне чакаюць аднаасобнікі.

фота: В. Рудчык

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | — | 320 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 470 | 450 | 390 |
| яйкі | 1 шт. | 1,70 | 1,70 | 1,50 |
| масла | кг | 60 | 60 | 55 |
| свініна | кг | 37 | 38 | 36 |
| сала | кг | 33 | 35 | 34 |
| бульба | кг | 1,35 | 0,85 | 0,95 |
| цыбуля | кг | 4,25 | 5 | 4 |
| капуста | кг | 1,50 | 2 | 1 |
| морква | кг | 2,50 | 2,50 | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 3 |

## КІНО

Праграма
На 27.IX.—2.X.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zobaczymy się w niedzielę" (polski), 27—28.IX. „Hasło bez odzewu" (bułg.), 29—30.IX. „Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 1—2.X.

**Кляшчэлі**
„Szerszeń" (radz.), 27.—28.IX. „Mezalians" (czeski), 29—30.IX. „Dni grozy i śmiechu" (USA), 1.—2.X.

**Нарва**
„Lęk" (czeski), „Testament uczonego" (radz.), 28.IX.—2.X.

**Нараўка**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral i inni" (polski), 28.IX.—2.X.

**Чыжы**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 28.IX.—2.X.

**Дубічы Царкоўныя**
„Umrzeć w Madrycie" (franc.), „Kuba w ogniu" (kubański), 28.IX.—2.X.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Małpia kuracja" (USA), „Skrawek ziemi ojczystej" (radziecki), 28.IX.—2.X.

**Орля**
„Gorąca linia" (polski), „Jojo" (franc.), 28.IX.—2.X.

**Райск**
„Inspektor i noc" (bułg.), 28.IX.—2.X.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Starsza pani bez godności" (franc.), 27—28.IX. „Barwy walki" (polski), 29—30.IX.

**Міхалова**
„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 27.—28.IX. „Następcy tronów" (włoski), 29—30.IX.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Tanganika" (radz.), 27—28.IX. „Jons i Erdme" (NRD), 29—30.IX. „Barwy walki" (polski), 1.—2.X.

**Мілейчыцы**
„Światła w oknach" (radz.), 29—30.IX. „Pojedynek" (radz.), 29—30.IX. „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 1—2.X.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Niewysłany list" (radz.), 27—28.IX. „Ucieczka z Paryża" (franc.) 29—30.IX. „Nieznany" (polski), 1—2.X.

**Шудзялава**
„Gorąca linia" (polski), „Jazz, jazz, jazz" (franc.), 28.IX.—2.X.

**Сідра**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 27—28.IX. „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 29.—30.IX. „Zabawy w muzeum" (węgierski), 1—2.X.

**Сухаволя**
„Trzy kroki po ziemi" (polski), 27.—28.IX. „Normandia — Niemen" (radz.), 29—30.IX. „Cisza! Na sali operacja" (radz.), 1—2.X.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A-5116" (węgierski), 1—2.X.

**Ліпск**
„Droga przez cmentarz" (radziecki) „Ulica Graniczna" (polski), 1—2.X.

**ТЭАТР ім. Вянгеркі (выязная група)**

**Саколка**
„Gwiazda Sewilli" — 27.IX.

**Сямяцічы**
„Gwiazda Sewilli" — 28.IX.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5965. Bltk D-3



 

# ДУХ І АСЁЛ

У Вялікай Дулі здарыўся цуд, хаця мала хто пра яго ведае. А ўсяму вінават старшыня нашага сельскагаспадарчага гуртка кум, Антон Галоўка. Добры з яго быў старшыня. За развіццё гуртка шчыра змагаўся і аб высокім узроўні свайго і нашага быту не забываў. Чэсны, шчыры і станоўчы. Вось за гэта яго ўзнагародзілі. Залаты крыж дастаў, а на дабаўку 10 тысяч злотых прэміі. З радасці адразу купіў матацыкл «ВСК», каб больш спраўна сачыць за трактарыстамі, каму яны за яго плячыма поле аруць. І гэта згубіла яго, царства яму нябеснае. Аднойчы, даганяючы трактарыста, папаў у роў і... канец. Мы яму помнік выставілі.

На яго месца выбралі мяне. Усё ўжо йшло па-ранейшаму. Аж да гэтага цуду.

Вяртаўся я з адной важнай нарады. Было ўжо позна. Дарога ад ПКС-у ў Вялікую Дулю праходзіць ля могільніка. Перахрысціўся я і, сагнуўшыся, іду. Дайшоў ужо да палавіны агароджы і тады чую:

— Кум, куманёк, пачакай, змілуйся! Голас знаёмы, сумненняў няма. Гляджу і сапраўды за агароджай стаіць былы старшыня, Антон Галоўка. Я анямеў. А ён пакорна просіць:

— Куманёк, даражэнькі, пазыч мне трактара на некалькі дзён.

— Трактара? — здзіўляюся. — А навошта ён табе? Не змесціцца ж у магіле!

— Каб у неба хутчэй дабрацца. Бачыш, крыллеў мне не выдалі. Нейкая сволач па хабару двое забрала. А пехатой не змагу да канца свету. Тут у нас шалёная механізацыя. Пакуль дабяруся, усе лепшыя месцы заняты будуць.

Шкада мне стала кума, дык гавару:

— Сам ведаеш, кум, без пастановы праўлення я не магу. Заўтра табе скажу.

На другі дзень яшчэ на досвітку паімчаўся я да старшыні нашай грамады на нараду. А ён, сіняносы, не верыць, смяецца ды яшчэ пальцам у лоб стукаецца.

— Я з Масквы ў Берлін прайшоў, — кажа, — але такіх цудаў не бачыў!

— Не верыш? Дык ідзі са мной, пераканаешся! — раззлаваўся я. Старшыня адважыўся.

— Калі б гэта праўда была, — заўважыў, хітравата ўсміхаючыся. — Дык цуд можна было б зрабіць, як у Заблудаве. Адразу ўзровень нашага быту пайшоў бы ўгору на цэлых 100%. І школу, і святліцу, і вуліцу брукаваную было б за што пабудаваць, ды яшчэ на вадаправод асталося б.

Творчы энтузіязм проста яго перапаўняў. Хацеў бегчы ўжо адразу. Ледзь пераканаў я яго, што трэба ноччу.

А ноч выпала месячная, зорная. Сталі мы ля агароджы, чакаем.

— Каб толькі месяца і зорак не пабаяўся, — гавару я, і ў той жа момант зашумеў лес, запахла серай і перад намі з'явіўся былы старшыня нашага гуртка, кум Антон Галоўка. Як жывы. Паглядзеў на мяне сумна і кажа:

— Эх, кум, ты кум! Прасіў я ў цябе трактара, а ты мне што — гэтага асла прывёў!

Вось якія памылкі бываюць.

**Асака**






— Відавочна не вярнуліся яшчэ з водпуску...

### ЗНАЁМСТВА

У першы дзень заняткаў выкладчык пытае ў аднаго з курсантаў:

— Вы Лунько, знаёмы з тэхнікаю?

— Так, я служыў у радыётэхнічных вайсках.

— Цудоўна. А кім вы былі — радыстам, тэлеграфістам?

— Не, я быў кухарам.

### ПОЗНА БУДЗЕ

Гаспадар, гутарачы з суседам, паклікаў свайго сына і даў яму гладыш. Загадваючы, каб той прынёс халоднай вады, добра адлупцаваў яго.

— За што ты б'еш? — спытаўся сусед.

— А за тое, каб не разбіў гладыш.

— Дык ён жа яшчэ не разбіў.

Калі разаб'е, тады і адлупцуеш.

— Тады ўжо позна будзе.

### ЦЁМНА Ў ВАЧАХ

У камунальным доме пры агульнай кухні жылі пракурор і загадчык склада. Зналі яны адзін аднаго толькі па тым, што адзін пракурор, а другі — загадчык склада.

Раніцаю загадчык склада вітаўся з пракурорам словамі:

«Добры вечар!»

— Скажыце мне сусед, — запытаў аднойчы пракурор, — чаму вы кожнаю раніцай жадаеце мне добрага вечара?

— Таму, што, калі я вас убачу, мне робіцца цёмна ў вачах, — адказаў загадчык склада.

### «РОЗНІЦА»

Настаўнік: — Зноў ты, Семянюк, падказваў Петручуку?

Вучань: — Не, я не падказваў, а толькі дыктаваў.

### ЛЕЖАБОК

Жонка да мужа гультая:

— Як табе, Піліпе, не сорам? Усе людзі ў полі, а ты дома ляжыш?

— А дзе ж я ў тым полі паляжу, калі зямля сырая. Яшчэ прастуджуся.

### ЖАНІХ

Сустрэліся сяброўкі. Адна запытала ў другой:

— Праўда, што ты замуж выйшла? Хваліся ж, ці прыгожы твой муж. Бландзін ён ці брунет?

— А я і сама не ведаю.

— Дык ён што, сваю чупрыну фарбуе?

— Не. Ён зусім лысы.

### ДОБРАЯ ЖОНКА

Двое сяброў вядуць размову пра тое, чыя жонка лепшая.

— Мая жонка, — гаворыць першы, — вельмі добрая. Як толькі я прыходжу з працы дамоў, яна здымае з мяне паліто, падае мне хатнія пантофлі і пальчаткі.

— Пальчаткі? — здзівіўся другі.

— Так, гумавыя пальчаткі для мыцця посуду.



— У вас што — дзень нараджэння?

— Не, гэта мы рыхтуемся да сустрэчы з майстрам па рамонту тэлевізараў.

### НА КІРМАШЫ

Жонка: — Мікалай, а дзе пакінуў карову?!

Мужык: — А прадаў, мая даражэнькая, прадаў!

Жонка: — Ціха! Чаго ж ты крычыш, каб усе чулі?..

Мужык: — А штооо табе тут не падабаецца?!..

Жонка: — Што ты, Колечка, ужо п'яны?

Мужык: — Што ты адурэла?

Жонка: — Ды ціха! Давай мне грошы!

Мужык шукае і пачынае вывварочваць кішэні...

Жонка: — Прапіў, або выцягнулі, а бадай ты каркі скруціў!

Мужык: — Ціха! Чаго ты крычыш?

Жонка: А што ты сабе думаеш?!

Мужык: — Я думаю, дзе я падзеў грошы.

**ВА.**

# ЧАСТУШКІ

Наш грамадскі аграном
Пра вёску клапоціцца,
Ён у горад кожным днём
Матацыклам коціцца.

Наш «актыўны» аграном
Так нам памагае,
У гасподзе чарапком
«Чысту» папівае.

Прыспевуе. — Валя-твіст! —
Уваков яго чуці,
А у вёсцы матарыст
Малатарняй — «круціць».

Куды хоча, туды йдзе,
Чаргі не пільнуе.
Той у яго «маладзец»,
Хто лепш зафундуе.

Хочаш трактара паняць,
Трэ смыкалку меці —
Упярод трэба «у лапу даць»,
Або ў горла ўліці.

У полі п'яны трактарыст
Паламаў два плугі.
Каму з гэтага карысць,
Трэба ж на іх пугі!

Нельга п'яніцам машын
Даваць, грамадзяне,
Бо інакш з гэтых прычын
Уся работа стане.

Годзе дуракоў валяць,
Станьце людзі спаўкай
Ад машынаў вымятаць
П'яніцаў мяцёлкай!

**В. Асіповіч**



— Ты, ведаеш, тата, цяпер модна насіць падцяжкі.



УСЁ ЛЮДСКОЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ




Чалавеку ўласціва памыляцца і таму ў яго ёсць сябры.

**І Гетэ**




У газеце «Нью-Йорк геральд трыбюн» змешчана такая аб'ява: «Патрабуецца кватэра, якая была б дастаткова вялікая, каб не выклікаць у жонкі жадання вярнуцца да бацькоў, і ў той жа час дастаткова малая, каб бацькам не прыйшло ў галаву перасяліцца да сваёй дачкі.»

✲

У час забастоўкі зборшчыкаў падаткаў у Нарвегіі з усіх куткоў краіны ў забастовачны камітэт прыходзілі тэлеграмы такога зместу: «Трымайцеся!», «Не здавайцеся!» «Калі спатрэбіцца, бастуйце хоць цэлы год!» Лёгка здагадацца, што аўтарамі гэтых тэлеграмаў былі плацільшчыкі падаткаў.



Найвялікшае майстэрства гаспадара: выклікаць у гасцей пачуццё, быццам яны дома — хаця сам ён марыць аб тым, каб яны сапраўды былі дома.

